УДК 82-145=161.3
ББК 84(4Беи)-5
Б24

**Барадулін, Р. І.**
Б24 Сны сасны: вершы / Р. Барадулін; уклад. А. Камоцкі; фат. В. Грудзько. — Мінск: Галіяфы, 2014. — 158 с.: фат.
ISBN 978-985-7021-48-2.

Кніга вершаў Рыгора Барадуліна, ілюстраваная фатаздымкамі Вадзіма Грудзька.

**УДК 82-145=161.3**

**ББК 84(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-7021-48-2**



# Сны сасны

Рыгор Барадулін

(24.02.1935 – 02.03.2014)

# Сны сасны

Гэтае выданьне планавалася яшчэ чатыры гады таму, але тады ня зьдзейсьнілася, замест яго зьявілася кніжка вершасказаў Рыгора Барадуліна «Навошта».

Мінулай восеньню пра «Сны сасны» ўспомнілася галоўным чынам з-за таго, што ўсе ўключаныя ў збор вершы сам паэт прачытаў перад мікрафонам.

Я паабяцаў Барадуліну, што да наступнай восені кніжка пабачыць сьвет разам з аўдыёдыскам – у звыклым фармаце серыі, якая задумалася 10 гадоў таму, калі Рыгор Барадулін дапамагаў Вадзіму Грудзьку з падрыхтоўкай і напісаў прадмову да ягонага фотаальбому «Край», укладаньнем якога выпала займацца мне.

А цяпер, калі прыйшоў час выдаць кніжку Барадуліна, складзеную яшчэ ў 2010-м годзе, ужо Вадзім пасьпяшаўся на дапамогу. І я, памятаючы, як захапляўся Барадулін працамі Вадзіма, з радасьцю гэтую дапамогу прыняў.

Да восені мы пасьпелі.

І вось яна перад вамі, кніжачка выбраных вершаў, агучаная аўтарам і аздобленая фотаабразкамі, якія зрабіў Вадзім Грудзько.

Укладальнік.



ДОМА

Якая радасьць у мяне,
Калі дадому завітаю!
Тут ні адзін не абміне,
Пагутарыць і распытае.

І як жыцьцё, і як настрой,
І чым я маю пахваліцца...
Зайшоў бы на бліны — парой
Мне кіне цётка-жартаўніца.

Суседка ўспомніць, як сама
Маю калыску калыхала,
Як прыгажэйшае імя
Яна мне калісь выбірала.

А то заўважыць: паплячэў...
Прыгнуўшыся, заходжу ў хату.
І, быццам так, дадасьць яшчэ,
Што нарасло дзяўчат багата...



## ДОБРАЙ РАНІЦЫ!

А птушкі расстаньне прарочаць.
Зара маладая займаецца...
Кажу я табе:
Добрай ночы!
Хоць трэба казаць:
Добрай раніцы!

І вочы ўглядаюцца ў вочы,
Вясёлыя, шчыра ўсьміхаюцца.
І кажуць яны:
Добрай ночы!
Хоць трэба казаць:
Добрай раніцы!

І рукі разьняцца ня хочуць —
Мацней яшчэ толькі сьціскаюцца.
І кажуць яны:
Добрай ночы!
Хоць трэба казаць:
Добрай раніцы!

***

Сьвітаньняў я з табой не сустракаў,
Не расьсякаў вяслом азёрнай хвалі.
І толькі шморгаў носам аб рукаў,
Калі цябе да дошкі выклікалі.



Здавалася, што бачыць увесь клас,
Калі ў твой бок глядзеў я ўнезнароку.
Каб аб сабе напомніць лішні раз,
Па пяць заўваг я зарабляў на ўроку.

Што стала мне ты нейкаю другой,
Баяўся і сабе прызнацца ў гэтым.
Ды толькі ўсе чамусьці нас з табой
На кніжках плюсавалі без сакрэту.

Ну, а калі кілометры за два
Дамоў з аднавяскоўцамі ішла ты,
Як крыўдна мне было, як я злаваў,
Што каля самай школы наша хата.

Гады прайшлі.
У кожнага свой шлях.
І апынуўся я ня ў роднай хаце.
...З усьмешкай палахлівай на губах
Я сьніў цябе ў студэнцкім інтэрнаце.

І вось нарэшце на лістах шасьці
Прызнаўся я табе ў сваім каханьні.
З трывогай «заказное» апусьціў
І атрымаў адказ —
тваё маўчаньне.

Дамоў прыехаў.
Кажуць, трэці дзень
Грыміць тваё вясельле (я ж ня веру).
Вянок з гароху хочуць мне надзець
Сябры, як адстаўному кавалеру.

Хай надзяюць — мне невялікі страх,
Я з гора пацягну з кілішка троху.
Дык пасядзім з табою мы ў вянках,
Твой з красак палявых, а мой —
з гароху.

...Хай сьнег гадоў асядзе ў валасах,
Хай будзе мне хоць пяць разоў па дваццаць
Усьмешкай палахлівай на губах
Ты школьніцай мне будзеш усьміхацца...

## ТРЭБА ДОМА БЫВАЦЬ ЧАСЬЦЕЙ

Трэба дома бываць часьцей,
Трэба дома бываць ня госьцем,
Каб душою не ачарсьцьвець,
Каб ня страціць сьвятое штосьці.



Не забыць, як падвялы аер
На памытай падлозе пахне.
Як у студню цыбаты асьвер
Запускае руку да пахі.

Не забыць сьцежкі той, што цябе
На дарогу выводзіла з дому,
Што ў хаце там быў рубель
У цане і па курсу старому.

Не забыць, як марозам злым
Клямка пальцы пячэ балюча
І адкуль на стале тваім
Бохан сьвежага хлеба пахучы.

Помніць свой на іржышчы цень,
Не забыць, як завуць суседа,
Не забыць, як пяе пад дзень
За вясёлым сталом бяседа.

Трэба дома бываць часьцей,
Трэба дома бываць ня госьцем,
Каб душою ты стаў чысьцей
І ня страціў сьвятое штосьці.



ПАШТОЎКА ДА МАЦІ

Пісала: агуркам гарэць пара,
Ды ў чэрвеня з дадджамі непаладкі...
А тут дадджы штодзень на ўсіх парах
Шчырэюць так, хоць не вылазь з палаткі.

І я ў дазоры ўчора да зары
Стаяў і мок у дождж руплівы самы,
Каб ён да нас сьпяшаўся, ўгаварыў,
Каб твой гарод паліў, як трэба, мама.

Дождж кляўся кожнай кропляю сваёй,
Што выканае ўсё абавязкова, —
Палье гарод удосыць сёньня твой.
Ты напішы мне,
Ці стрымаў ён слова?

## БУСЕЛ

Васілю Быкаву

Непаседа,
дажўгацыбы бусел —
Даўняе вясны
забыты сон.
...Я злавіць яго
за хвост цягнуся,



Дражніцца
    і уцякае ён.
От, здаецца,
    ушчамлю пад паху
(Лугавінаю
    бягу
        наўпрост).
Нада мною —
    крылы белым дахам,
А перад мною —
    чорны хвост...
Зморaны, я доўга плачу
потым.
Суцяшаць
    стараюцца усе:
— Бусел ходзіць
    у чырвоных ботах
І табе
    такія ж
        прынясе...

Горбіць плечы гора,
    горбіць праца.
Усяго спаўна
    мне лёс паслаў...
Вось ужо і скроні серабрацца.
Ды яшчэ й цяпер
    лаўлю бусла.
Ну, на гэты раз
    вярнуся з птахам —
Я ж за ім прайшоў
    багата вёрст!
Нада мною — крылы белым
дахам.
Паспрабуй
    злаві
        бусла за хвост...

## МАТЫЛЁК

Б’ецца, ўецца шпаркі, лёгкі
Сінякрылы матылёк.
Максім Багдановіч

Лілею
млявы
плёс
люляе,



З-пад зьлежаных
аблок
здалёк
Ляціць, віхлясты і бялявы,
Пялёстак лёгкі —
матылёк.
Ён кліча у блакіт лілею,
Каб не любіла
больш
да сьлёз
Бліскучы ад лускі і глею,
Самлелы
абмялелы
плёс,
Дзе лашчыць цёплай ласкай
хваля
Лінёў — зьлянелых цельпукоў,
Паблісквае
няблізка
далеч,
Дзе ў іле
не злічыць малькоў,
Дзе глыб
угнеўлена шыпела,
Калі
на хвалі
лівень
лёг...
Засумавалы,
белы,
белы,
Ляціць удалеч
матылёк...



***

Чаканы міг спакою.
І — паварот ключа.
Сьвітае у пакоі
Ад смуглага пляча.

Трывожнага дыханьня
Трывожны сухавей,
Трывожныя ў тумане
Пагляды ласкавей...

Прачнулася сьвітаньне —
Пакінулі пакой
Пачэснымі сватамі
І цішыня й спакой.

Прыцішаныя крокі.
І — паварот ключа.
Нырае ў сон таропка
Маладзічок пляча...



## ПАНЯДЗЕЛАК

Ён не багаты на падзеі.
На сьвет глядзіць, нібы праз сон.
Здае пасуду панядзелак
І, хмурачыся, п’е расол.

Няяснай яснасьцю надзелены,
Хацеў бы ён паўсюль пасьпець.
А ў галаве яшчэ нядзеля
Варочаецца, як мядзьведзь.

Адвыкла глушыць цэх кавальскі.
І, як чаляднік, хмуры дзень
На гулкі дол балванку валіць,
Здаецца, вобмацкам ідзе.

Ах, панядзелак, панядзелак.
Хмурынка смутная сплыла.
А можа, не было нядзелі?
Не, ўсё-такі яна была!..

***

Паказала гай малады
І ня хочаш мне адгукацца.
Як па першапутку сьляды,
Па паляне лісты акацый.
Па паляне ходзяць лісты,



Па паляне ступае трывога.
Мы ўтраіх —
        восень,
        я і ты.
Пачакае да заўтра дарога!

Неспакойны заход ачах.
Не ад вечара стала золка.
Зазьвінелі ў тваіх вачах
Цені дрэў і нясьмелая зорка.

Ці ня блізкія ўчуў халады,
Што пачаў маладзік заікацца.
І дрыжаць над намі сьляды
Ацалелых лістоў акацый.

Хай за Донам шумяць лясы.
Дзелім мы свой жаданы сорам...
Пахлі вечарам валасы
І падміргвалі грудзі зорам...



НЯНЕЧКІ

За гарадской прапіскаю
Вы ідзяцё у нянечкі.
Вас у пад'ездах ціскаюць,
Салдаты просяцца ўаначкі.

Вас на алейках сватаюць,
Кахаюць у сьціхлых скверыках.
Сьмяюцца піжоны цыбатыя
З «произношения скверного».

Дзябёлыя вы, як пранікі,
Цьвітуць вашы вочы лубінам.
Вясною, як бульбінкі раньнія,
Насы кірпатыя лупяцца.

І песьню, што жала, бабіла,
Ішла басаНож за баронамі,
Удовіны ночы бавіла, —
Ціха сьпяваецца, нібы забаронена...



***

Сьвет захлынуўся ад сьвятла.
Ступаў я ў твой гарачы сьлед.
Была вясна,
І ты была.
Як сьнег, кіпеў вішнёвы цьвет.

Ня ведаў я ні звад,
Ні здрад.
Сузор’яў распазнаў сакрэт.
Твой сьмех зьвінеў,
Ясьнеў пагляд
Вясновы,
Як вішнёвы цьвет…

Мой дзень асеніцца ў журбе.
Ліст зжоўклы — ў забыцьцё білет.
Гукаў вясну,
Гукаў цябе.
Як сьнег, апаў
Вішнёвы цьвет…

***

Падае,
Падае лісьце...
Час — малады нігіліст...
І сам ападу калісьці,
Як перасьпелы ліст.



Адсякае далоні
Клянам
Лістабой.
А калі нам
З табой
Сустрэцца там,
Дзе сустрэч няма,
Дзе не выгукнеш
нават:
— Ма...
Мама,
Ня скажаш
«Сынок»
Таксама.

...Бяз просу заходзіла
Восень у сені.
Я помню голас
Песьні асеньняй:
«Бяроза з лістам
Усю восень гаварыла:

— А мой лісточак,
А мой зялёненькі,

Ты ж мяне пакідаеш...
Нябось, бяроза,
Нябось, белая,
Я к табе вясной буду,
З табою шумець буду,
Цябе зеляніць буду...»

...Сёньня.
Было гэта ўсё
Калісьці...
...Падае лісьце...



***

Сезона важная персона —
Асеньні дождж,
Як півавар.
Пад абажурам парасона
Цьмянеецца
Дзявочы твар.

Залее зьзелянела замша,
І хвартушок
Ледзь-ледзь намок.
Як курганкі вясновых замчышч,
Цяплееецца
Грудзей намёк.

Залезьці ў дажджавы тралейбус,
Нібы па конкурсе прайсьці.
Спрадвечнага чаканьня рэбус —
Чаўнок у дажджавым трысьці...



***

У зажураным садзе
 п’юць сінічкі гарбату.
Звоняць лыжачкі
 ў ценькія сьценкі шклянак.
Зноў адзін пакідаю
 матчыну хату,
Ганак самотны,
 журботны ранак.

З утрапёным даверам
 гляджу навакола:
Серп сагнуўся,
 ржавее пагбаная міска...
Надпіс прыгадваецца
 на браме касьцёла:
«Ціха, Бог блізка...»



## ВЫКЛАДЧЫЦЫ РОДНАЕ МОВЫ

Выкладчыцы роднае мовы,
Настаўніцы сельскіх школ,
На вас і каровы і дровы,
Нагрузак няўдзячны падзол.
Гатовы
Падставіць плячо вы
Пад зруба вянец цяжкі.
Нясеце крывіцкія словы,
Нібы вугалькі,
Праз вякі.

У кожнай хаціне —
Вы дома.
Жыцьцё ваша ўсё на вачах:
Любому вяскоўцу вядома,
Што ў печы ў вас,
Што на плячах.

Люстэрка?
Калі ў яго глянуць?
Клапоты, турботы штодня...
Каравыя рукі сялянак
І ўзьнёслых вачэй чысьціня...



## АЗІМЫ ДУБ

Смалілі ў цябе
Вайны перуны,
Спазнаў паклоны,
Запомніў праклёны.
Ды не адстала ні карыны
Ад цела твайго,
Зялёны.

У хмурыне чупрыны
Дазволіў ты
Раскашавацца зорам,
Каб хцівасьцю ўсьмяглі
Злыя раты,
Зайздросьнікі ўспомнілі сорам.

Сыноўняму сэрцу
Балюча люб,
Каранаваны кронай нязьгіннай,
Край мой спаконны —
Азімы дуб
З выпаленай сэрцавінай.



***

Ластаўка —
Хата матчына,
Мне пад крыло страхі —
З д’яблам,
З анёлам у складчыну! —
Не надтачыць шляхі.

Зорамі не стлумачана:
Толькі — і больш нідзе! —
Ластаўка,
Хата матчына,
Добра ў тваім гнязьдзе.

Прэч злыбяда пашастае,
Хопіць сьвятла начы, —
Ты аканіцай,
Ластаўка,
У сны мае сьвіргачы...

***

Кім стану я пасьля,
Ці палыном, ці клёнам?
Каб што!
Мяне зямля
Зямным шчадрыла плёнам:



Дарогай аржаной,
Хмурынкай ільняною,
Сьцяжынаю кружной
Да наспы пад сасною.

Ня жыць як набяжыць,
Каб дзень за дзень — і годзе.
Міг верай знабажыць.
Мой дзень — маё стагодзьдзе.

Кім стану я пасьля?
Каб што!
Якое слова
З нябытнага быльля
Мяне ўрачэ нанова?

Што скажуць пра мяне?
А ці ўспамін сурова
Увагай праміне?
За ім
Сьвятое слова!



***

Замоўкне ён,
Замілаваньня дрозд,
І папярхнецца даўкаю журбою,
Калі ты сам адчуеш
Свой узрост,
Свой даўні доўг
Перад самім сабою.

І толькі
Клопату вясновы шпак
Ласкава дасьць табе
Адчуць дарэшты
Пяшчоты прысмак
І адчаю смак,
Пакуль ты
На вышэйшы сук дзярэшся…



***

Асеньні халадок
Яшчэ не халадэча.
Ня тузай павадок,
Апошняя сустрэча.

Куліцца пад адхон
Яшчэ ня час калёсам.
Імчаць бы на абгон,
Навыперадкі з лёсам!

Хай высьветліць душу
Адчай, як май,
Сьвяткамі.
Цярпеньне май,
Прашу,
Апошняе спатканьне!



***

А сьнегапад напаў на сад.
Віднее на дварэ.
Хто сівізну маю назад
З вясною забярэ?

Сьвятлею, як зімовы сад.
Вясновым быць ня мне.
Іду, ўзімелы, наўпапад
Па белай цаліне.

А сад не ўзварухне галін,
Я сум не ўзварушу.
Хоць ласкай апячы ўспамін,
Як некалі душу!

Сьняжок засьведчыць
Малады,
Што сьветла ўсё было.

Ня май бяды —
Мае сьляды
Завеяй замяло...



***

Я стану, як стэп, салёны,
Нібы Ледавіты,
Шквальны,
Каб толькі пачуць:
— Шалёны!
Каб толькі пачуць:
— Ненармальны...
Растаю боязі льдзіны,
Садзьму
Недаверу барханы,
Каб толькі пачуць:
— Адзіны!
Каб толькі пачуць:
— Каханы...
Гатоў на любыя згубы,
Каб моўклі губы адчаю,
Абы не адчуць:
— Нялюбы...
Абы не пачуць:
— Звычайны...



***

Чорны вол маёй трывогі,
Белы вол маёй надзеі
Цягнуць лямку да зьнямогі,
Змрок турбот ані радзее.

Плыўныя аблокі,
Крыгі,
Маладыя сьнегапады,
Як заядлыя барыгі,
Загрузіць па дышаль рады.

Да апошняе дарогі
Іх пасу па чарадзе я —
Чорны вол маёй трывогі,
Белы вол маёй надзеі.



***

Ляці са сваімі гадамі,
Пільнуйся сваёй чарады:
Ускрыліць і паспагадае,
Заслоніць свая ад бяды.

Няхай маладыя чароды
Іначаць і шлях, і прыбой,
Твой вырай і шлях твой —
Чароўныя,
Адкрытыя толькі табой.

Ні белай варонай між чорных,
Ні чорнай між белых гусей
Ня будзь на разорынах зорных
Ні ў сьпёку, ані ў грыбасей.

Каб юныя не гагаталі
З цябе над захмарнай градой,
Лунай
Са сваімі гадамі,
Зьнікай
Са сваёй чарадой.



***

Восень з дажджлівай уміг залатою
Стала — і добрымі ўсе —
Над жаўталісьцем і над слатою,
Сьцежкамі ў пудкай расе,
Над тумановаю белатою,
Сонцам, што сьпіць на лясе,
Над перазяблаю Палатою

Вочы дзяўчына нясе.

Не ачарнілі іх коні Батыя —
У першароднай красе
Ранішне-сінія і маладыя

Вочы славянка нясе.



СЬВЕТЛАПАД

Сьнег зьлятае з неба —
пад
Позіркамі мгліцца.
Вейкі-веі.
Сьнегапад.
Белая ігліца.

Не хапае лапат
Дворнікам і —
Злосьці.
Сьнегапад.
Сьветлапад.
Маладое штосьці.

І дзяўчына ў плашчыку,
Лёгкім не па часе,
У чырвоную шчаку
Яблыку ўпілася.



***

Матулі нашы сьведчаць неўміруча —
Краса непадуладная гадам.
Садоўнік-час, што абразае суччa,
Вясною сам зьдзіўляецца садам.

Прывабная ў сваім адчаі круча
Дае развагу маладым сьлядам.
За звон ручча ручаецца прыручча.
Рачулка дазваляе быць ільдам.

Нас да саміх сябе бяда вяртае,
Як адыходзяць мамы ў нашы сны.
Спагада ў раньніх зморшчынках сьвітае,
Сум разьвітаньня — ў сьнезе сівізны.
Краса матуль адданасьцю сьвятая —
Ёй са спазьненьнем моляцца сыны.



***

Табе найлепшыя радкі
Яшчэ я напішу.
Яшчэ я іх кармлю з рукі
І не ўзьлятаць прашу.

Яшчэ дзічэць пачнуць яны
І прагнуць вышыні.
Іх неспалоханыя сны
На скрусе не жані.

Іх крыл трывожлівы ўскалых
Ускалыхне душу.
Ты толькі дачакайся іх —
Я аб адным прашу…

***

Хат болей, чым людзей.
Цямнее вечарамі,
І ціхі ўецца ўраньні
Дым з комінаў радзей.



Гальлём жыцьця да дна
Пазагаціўшы гаці,
Дасюль у кожнай хаце
Яшчэ жыве вайна.

Жывыя вочы хат
Глядзяць праз пальцы дошчак,
Як скача босы дожджык
Па лёхах наўздагад.

І хаты ў бабылі
Пайшлі б,
Ды моцна гэтак
Двароў,
Хлявоў,
Паветак
Трымаюць хатулі.
А галасы надзей

У даўнім перапудзе
Гукаюць:
Дзе вы, людзі?!

Хат болей, чым людзей.



***

Якія будуць сьніцца сны
Нашчадкам нашым:
Ці дзень вясны,
Ці цень сасны,
Ці шум лясны,
Ці нашум?

Ці неба зорнае прыкмет
Для іх значэе —
І казак сьвет,
І сьлед камет
Ня будзе мець значэньня?

Ці хопіць памяці званоў
Званіць у заўтра?
Прачнецца зноў
Трывога сноў
І мы, як дыназаўры?



***

Ёсьць самазабыцьцё начы,
Асьвечанае згодай цела.
Як потым сэрца б ні хацела,
Яму нікуды не ўцячы

З няволі радаснай тае,
Дзе толькі вочы,
Толькі рукі,
Дзе,
Покуль ціша растае,
Сябе саромеюцца гукі.

Хоць за сабою сам сачы
Люцей, чым наглядач астрожны,
У цемру сьветлую начы
Сьпяшацца будзе
Дзень твой кожны...



***

Запрашаю цябе ў зіму,
Дзе ад сьнегу душна ялінам,
Нагадаюць няхай яны нам,
Мы шукалі сябе чаму.

Запрашаю цябе ў вясну,
Дзе ад квецені сьнежнай бела,
Дзе сьцяжынка зьбегчы пасьпела
У нядаўнюю даўніну.

Запрашаю цябе адну
У хаціну маёй самоты.
Для цябе маладосьць гукну,
Узаб'ю ў галавах сумёты.

Ад цябе журбы не ўтаю,
Той, што верыць дагэтуль маю.
Запрашаю ў восень сваю,
У зіму сваю Не запрашаю!



## ТУМАН ГАДОЎ

Туман гадоў на дне душы гусьцее,
З яго саткацца ўрэшце мусіць змрок.
Нібыта позна скошаны мурог,
Зьніцелі цені.

Як за лясамі, недзе за гадамі
Гучыць забыта голас малады,
Якому перайсьці брады жуды
Не загадалі.

І разумееш кожны рух і порух
Сваіх равесьніц —
Ранішніх дуброў,
Дзе ты гнязда спагады не спароў,
Дзе страх — у норах.

І разумееш зерня нецярпеньне
На волю выйсьці, руньню прарасьці, —
Як ні круці,
А да тваёй куцьці
Прыйсьці пасьпее...



***

Я — наглядач суровага астрога,
Сачу, каб не ўцяклі з мяне самога
Зайздросьць і злосьць,
Зьнявер’е і мана.
Яны,
Зламаўшы ўпартых рэбраў краты,
Сягаюць, як астрожнікі дахаты,
Туды, дзе іх чакае гамана
Доўгаязыкіх плётак, абгавораў.
Як наглядач
Я мецьму цьвёрды нораў,
Каб, Божа барані, уцекачы
Зьнікчэмнець не маглі дапамагчы!
Я — наглядач уласнага астрога,
З трывалых сьцен ня выпушчу нікога!



***

І пачынаем жыць мы ва ўспамінах,
І берагчы дабро,
Працівячыся злу,
Ня важыць праўду
Ў фунтах ды ў асьмінах,
З трывогай верыць кожнаму вузлу,
Што завязаць ямчэй
Шчырэла памяць,
Каб мех спагад даверыць латаку.

Малоцім даўніх клопатаў цапамі
Снапы нязбыўнай крыўды на таку.
На ток забытасьці падвезьлі кпіны
Цяжкія непрасохлыя снапы.
Апошнія кватэры —
Успаміны,
Дзе цэдзіцца праз вокны
Дзень скупы...



***

Столькі я парастраціў
І дзен, і начэй
На цябе,
А калі разабрацца,
Неспакой для душы
І сьвятло для вачэй
Я знайшоў.
Стала мулкая ношка
Мякчэй.
Не была, значыць,
Марнаю праца.

***

Ад думкі ад тае,
Што ты непадалёку
Вітаеш гэты дзень,
І сэрца адтае,
І ўсьцешанаму воку
Сьвятлей зьвініць прамень.



Прамень нацягнеш ты
Вяроўкай для бялізны,
Сушыць мае лісты —
Іх будзе цуг вялізны
Да прысьмеркаў вісець,
Дзе з ельніку асець.

Паслаў лістоў няшмат,
А напісаў багата
На небе, на вадзе
Да ўсіх прыстольных сьвят,
А дзень з табою — сьвята,
Што свой адлік вядзе.

Нядоўга да слаты,
Да ледзяной дарогі
З падступнай сьлізгатой,
З завейна-сьцюжнай доляй.
Шлю з восеньню лісты
Табе без асьцярогі

Апошняй,
Першай,
Той,
Якой ня будзе болей…

## РЫЖАЯ БЛІСКАВІЦА

Рэха бяру ў далоні
Радасьцю блаславіцца.
Мне пазваніла сёньня
Рыжая бліскавіца.



З першым дажджом вітала,
З громам, што будзе сьледам.
Міг —
І яна растала,
Стала туманам шэдым.

Мне пазваніла яўна
З блізкага аўтамата,
З тога, які стаяў на
Варце,
Што куль таўсматы.

Дзе мая навальніца?
Будзь жа, пярун, за свата!
Позна цяпер вініцца,
Каяцца ранавата.

Насьцеж — самоты брамка!
Мае пагляд сакавіцкі
Неба майго абранка,
Рыжая бліскавіца.

***

Нішто паўтарыць немагчыма:
Ні праўду, ні нават хлусьню.
Ня тымі, што сёньня,
Вачыма
Я заўтра зірну ўпершыню



На позірк твой, родны нябёсам,
На стан, да спакус малады.
Мой крок з мяне зьдзівіцца,
Бо сам
Сваёй не пазнае хады.

Таму і прашу цябе,
Сёньня,
І шчыра кажы, і хлусі,
І сьмела куляй у прадоньне,
І ўзнось мяне на небясі!

Цябе паўтарыць немагчыма,
Таксама як і мяне.
Хай лёсу твайго аблачына
Пральецца дажджом па вясьне,

Каб зноў паўтарылася ценем
І руньню ўзялося хутчэй
Народжанае летуценьнем
Вясновае сьвята вачэй.

***

А можа, гэта ня я зусім,
А нехта іншы жыве на сьвеце,
За мною сочачы і за ўсім,
Усё трымаючы на прыкмеце,



Каб перадаць мне
Пасьля, пасьля
Усё сьвятое,
Усё благое,
Пакуль на грудзі мае зямля,
Як ноч, ня ляжа
Глухой вагою.

За гэтым іншым і я сачу,
І да сябе яго прымяраю,
І дратву выхітрана сучу,
Нябёсы з хмарамі прыміраю.

Мяне нібы не бяруць гады,
А нехта іншы хутчэй старэе.
А шыбы смутнасьці са сьлюды,
Сьвітаньнем вымытыя ў надзеі.

Шкадую іншага, як свайго,
Свой век стары
З-за гары пільную,
Не заўважаючы сам таго,
Гляджу праз шыбіну сьлюдзяную…



***

О, ты магутны, чалавек, —
Ваўка зрабіў сабакам,
На дровы ўсе лясы пасек
І порахам, як макам,
Гарматам панапхаў раты,
Каб галасьней рыкалі.
Як церні, зьвіў сабе драты
Уласнымі рукамі.

Зьнішчаў жывое і хутчэй
Ты штучнае выводзіў,
Як той кашчэй
З усіх вачэй
Глядзеў на зьдзіў і подзіў
Таго,
Што сам пасьля стварыў,
Як вечнае адрынуў,
Благі і добры свой парыў
Вярнуўшы з успамінаў.

ЖОЎТЫ ЛІСТ

Жоўты ліст,
Выпераны вятрамі,
Круцячыся, ляціць на зямлю.
Жоўты ліст
Нейчы лёс паўтарае,
Пакланіцца пасьпеўшы гальлю.



Быў нядаўна шалёна-зялёны,
Быў нядаўна зусім малады,
Жоўты ліст,
Прывітаўшы адхоны,
Сам выносіць сябе на клады.

Жоўты ліст,
Быццам ліс вогняхвосты,
За сабой замятае сляды.
Восень, моўчкі развозячы вёрсты,
Па дарозе бярэ халады
І вязе,
Толькі склыгаюць колы.
Зазімак —
Зухаваты таксіст —
Абганяе калёсы вясёла.

Не дапальвай мой сьлед,
Жоўты ліст!



***

Душа, як ні прагнецца ёй,
Ня можа вярнуцца ў паганства:
Лясы — апірышча і прытулак —
Павысечаны, пакарчаваны, патраляваны,
Рэкі — у іх бруд і пыл змываўся —
Павысушаны, павыпрастаны, павыпіты.
Як ацішэць, абымшэць, адтаць?
Куды ні кінься — парасьнікі, хмызьнякі.
Як пераседзець бяду
З чарацінкай у роце,
З пластмасавай,
Кактэйльнай у водападобнасьці,
Вясёлкавай ад мазуту,
Падступнай ад радыяцыі?
І непрытомная душа ў паганстве
Асланяе сябе крыжам,
Крыжам чарговай магілы...



***

Перасяленьне душ і хутароў,
Пераадольваньне, пераасільваньне.
Душа гібее ля чужых двароў,
Ёй зябка ля казённых каптуроў,
Жывая,
А як быццам перасыльная.

Яна перасяляецца сама
Туды,
Дзе звыклася, дзе прыцярпелася,
Дзе самая цяплейшая зіма,
Дзе ноч як дзень,
Дзе воч пустых няма,
Дзе соты смутку
Верасовай сьпеласьці.

Сябе самую доўга валачы
Душы
Дарогай дрогкай непадкутаю,
Чапляцца за калоды, за карчы,
Спаць у балоце, долю клянучы, —
Каб жыць на хутары
Сваёй пакутаю.

***

Завыць ваўком зусім ня проста,
Патрэбна ціша, халады,
На сьнезе хрумсткім, як бяроста,
У цемру зьбеглыя сьляды.



Вятры патрэбны нізавыя,
З пазёмкай зябкай на лычах.
Воўк без прычыны не завые
Да чорнай гаркаты ў вачах.

А можа, воўк зусім ня вые,
А голасам галосіць так
Па тых сябрах, што як жывыя
Ператварыліся ў сабак.

Галосіць, што яго абклалі
Сьцяжкі жуды з усіх бакоў,
Што абакралі
Тыя далі,
Дзе вёўся род ваўкоў
З вякоў.

Згадаўшы цёплы дух аўчыны,
Завыць ваўком захочаш сам,
Каб сум твой,
Быццам цень ваўчыны,
Дарогу перайшоў лясам.

Бярозкі сьвецяць, што сьвячыцы,
У прыпамінаў ля вакон.
Галоўнае —
Не развучыцца
Самотнаму завыць ваўком!



## ШТО ЁСЬЦЬ КАХАНЬНЕ?

Што ёсьць каханьне?
Бессаромнасьць,
Ці сьціпласьць,
Што ня ўздыме воч,
Ці разгаўленьне,
Ці скаромнасьць,
Ці ў зорках дзень,
Ці ў сонцы ноч?

Ці вечны грэх,
Ці пакаяньне,
Ці сум цяжкі,
Ці весялосьць?
Пакуль ня стоміцца
Пытаньне
Пытаць,
Датуль каханьне
Ёсьць!



***

Натуршчыкі, падзёншчыкі мастацтва,
Супернікі натурыстых майстроў,
Вам лёс дазволіў сьведкамі застацца
І перажыць уладу ўладароў.
Вы захавалі мудрае вар’яцтва —
Зьдзівіўшыся, зьдзіўляць усіх наноў,
Ад тлену ратаваць і ратавацца,
За жабракоў адказваць, за паноў.

Прыйшоўшы з Лонданаў,
З Бычкоў, з Парыжаў,
Цярпелі ўсё, а дух і нораў выжыў.
Вы за натуру мелі медзякі.
А потым вас шаноўна несьлі ў храмы,
Не шкадавалі пазалот на рамы,
Каб за сваіх прызналі вас вякі.



***

Я сам сабе няраз даваў зарок
Не прысьвячаць радкі свае нікому, —
Навошта выпускаць малечу з дому,
Навошта выпрабоўваць нечы зрок
І наганяць дакукаю аскому?

Але мяне ня слухаюць радкі,
Так і карціць ім
Вырвацца за дзьверы,
І толькі ўчуюць волю на паперы,
Паразьбягуцца ў розныя бакі,
І я адзін, як верабейка шэры,

Чырыкаю і зноў даю зарок
Не прысьвячаць радкі свае нікому,
Наіўных слоў ласкавую салому
Расьцерушыўшы,
Быццам незнарок,
Зноў паддаюся звычаю старому.

***

Апошнія паэты яўрэйскія.
Каму чытаць ім
вершы свае на ідыш?
Старыя пайшлі да продкаў,
аглухлі,
адвыклі.
Моладзь не разумее.



Сабакі ў гарадках перадохлі.
Местачковыя вераб'і
ў апошнім калене
зьвяліся хіміяй.
Ні школ, ні вучняў.
Толькі словы
такія-сякія ўпалі
па дарозе
ў беларускую мову.
Мне цьмяна прыгадваецца,
наплыўна бачыцца,
як на перадваенны брук
ляцелі з вокан
кніжкі з незразумелымі літарамі,
нібыта па сьнезе
прайшлося шмат лапак птушыных.
Зачынялася школа
ў мэтах адзінамоўя
альбо ўзаемапаразуменьня.

Хоць дагэтуль
столькі вякоў
Янка і Янкель,
Зося і Зэлда
добра адно аднаго разумелі.
Дарма што падшыванцы
пыталіся ў крамара:
— Ці ў вас прадаюцца
сьвіныя падкоўкі?
Ляцелі кніжкі
сумнакрылымі кнігаўкамі.
Гляджу
на кнігавак беларускіх
і ўспамінаю
панылакрылых самотных
выгнаньніц.



***

Беларусы —
Славянскай сям’і ізгоі
Па планеце паразбрыліся,
Папалілі свае караблі ўсе,
Як вяртацца назад?
Благое
На сябе нагаворваюць самі.
Абязмовілі —
Немтурамі
За чужымі лясамі, гарамі
Сум, як сена,
Вязуць вазамі.
А хапок таго сена
Хмарка
Возьме
Дый прынясе на Радзіму —
І затужыцца пілігрыму,
І ўсьміхнецца
У пекле Марка.

***

А напачатку далёка да меж,
А напачатку дарога шырокая,
Дзень твой і век —
Маладою сарокаю:
Белага болей,
Чорнага меньш.



А напачатку далёкі канец,
А напачатку дарога бясконцая,
А на сьвітаньні
Ні смогу, ні стронцыя
І не разьліты на кулі сьвінец.

А на зьмярканьні гусьцее сыта,
Дзень сваё ўбраньне пераніцоўвае:
Досьвітак шэры, і хмары сьвінцовыя,
І чарната,
Чарната,
Чарната.

Доўжыцца цень,
Карацее вярста.
Пасека ў роздуме,
Гай у курадыме.
І асланяючы далечы родныя,
Толькі сарока бялее з куста...

***

У жыцьці сваім местачковым,
У малечым сваім жыцьці
Я ня верыў набожна словам,
Дужа іх не стараўся пасьці.



А былі канкрэтныя словы,
Як дзядоўнік, як паплавы,
Як яблокі і як каровы,
Па якіх тужылі хлявы.

Я, ня выварaны ў варунках
У жыцьцёвых,
Любіў сьвятло.
Мне на здымках
І на малюнках
Прыгажэйшае ўсё было.

Толькі ў рэчцы жыцьцёвай
Лункі
Час прабіў,
Каб дыхнула тхло.
І на здымкі,
І на малюнкі
Пераходзіць усё пачало.

Заяц шустры, конь ціхагаловы,
Верацяно, памяло
Моўчкі папераходзілі ў словы,
Быццам іх зусім не было.

Роўнай робіцца сьцежка крывая,
Просіць ушанаваць пехатой.
Слова ўпірастае трывае,
І са здымкаў усё ажывае —
Толькі пах,
Толькі смак ня той.



***

У кастрычніцкае раньне
Сьветла стане.
Адміраньне, дагараньне,
Разьвітаньне
У апошні раз сышліся
Пры разьдзеле.
Сьціхлы дол, глухія высі
Парудзелі.
Адшумелі звон і тлумаць,
Дзякуй Богу.
І самому трэба думаць
Пра дарогу.



ХТО КАГО ПАКІДАЎ?

Трымаючы мацней авоську,
Сабе гаворыць, як у сьне,
Дзядок:
— Ня я пакінуў вёску,
Яна пакінула мяне.
Яна ўцякла за тыя межы,
Што трактар зьнёс за небакрай,
За тыя сіласныя вежы,
Дзе рай вяшчаў
Вароньні грай.

Усіх пакінула за тое,
Што ўсе зьняважылі яе.
А пад жалезнаю пятою,
Як пад магільнаю плітою,
Трава ў абразе не ўстае.

Спалілі смаляныя лавы,
Што ўсіх трымалі ля жытла.

«Сыходзіш, вёска, з яснай явы», —
Сказаў Купала.
І сышла...



***

Ці зробіцца роспач тугою,
Ці роспаччу стане туга,
Даруй мне, даруй мне благое,
Даруй мне, калі гэта льга.

Дзе жаўранак босай нагою
Яшчэ не ступаў,
На зямлі
Зьвіло сабе гнёзды благое,
Аж Бог не заўважыў калі.

А добрае ў злога слугою,
А добрае сьцежкай ізгоя
Ідзе і ня бачыць канца.
На добрае гляне благое
І ў пекла пашле,
Як ганца.

Паклічу дабро
І яго я
Ад хітрасьці абараню.
Дарую табе ўсё благое,
Даруй за маю дабрыню.



СВАЯЧКІ

Аплываюць у сьвечак пальцы
У бяспалую куксу апалую.
Сьвечкі, ўдзячныя цемраборцу агню,
Хацелі годна
Подых ягоны
Узвысіць у чысьціню
Пальцамі голымі,
Але нашча згарэлі ў полымі.
Сьвечкі —
Сваячкі сьвятла —
У бажбе
Самі спальваюць сябе
Датла.



***

Думаеш, часта сустрэнешся там
З тым, каго табе тут не хапае.
Гэта зямная надзея сьляпая
Перадаецца апошнім гадам.

Там ад душы пагаворыць душа
З душамі тымі,
Бо тут як нямая.
Гэта спадзеўка адчай сунімае.
Ходзіць сухімі імхамі імша.

Ды забываешся, вязень пакут,
Вораг,
Магчыма, ўжо болей ня люты
Там напаткае цябе,
І таму ты
Просіш, каб лёс затрымаў цябе
Тут.



***

О гэты тормаз недаверу,
Не дазваляе да канца
Адкрыцца прагнаму намеру,
Які ўцякае ад лаўца.

Не запыняецца пагоня,
А зьвер бяжыць,
Зьнікае зьвер.
Як цені лёсу на далоні,
Сваю з чужою шчырасьць зьвер.

Інакш ня спыніцца хістаньне
Галін,
Як вецер ні тушы.
І  недавер зьнявер’ем стане,
І зябка зробіцца душы.

Літаратурна-мастацкае выданьне

**Барадулін** Рыгор Іванавіч

# Сны сасны

Вершы

Адказны за выпуск Зміцер Вішнёў
Рэдактура і вёрстка А. Камоцкі

Падпісана ў друк 2.06.2014. Фармат 70x100 1/32.
Папера мелаваная. Друк афсетны. Гарнітура Georgia.
Ум. друк. арк. 6,42. Ул.-выд. арк. 3,28. Наклад 100 ас. Замова №25-2014.

Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Галіяфы». Запіс № 1/48 ў
Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў
і распаўсюджвальнікаў друкаваных выданняў.
Вул. Валгаградская, 6-24, 220023, г. Мінск.
E-mail: vish@bk.ru, http://galiafy.by/

Друк ТДА «НоваПрынт».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі, выдадзенае Міністэрствам
інфармацыі РБ 25.02.2014 за № 2/54. Вул. Геалагічная, 59, к. 4, п. 10,
220138, г. Мінск.